Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№7 (1024) 11 студзеня 1995 г. Серада. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 541972 экз. | Кошт у розніцу — 100 руб.

Учора...

## Старшынёй Мінскага гарвыканкама стаў Уладзімір Ярмошын

Учора стала вядома імя галоўнага прадстаўніка прэзідэнцкай вертыкалі ў сталіцы Беларусі. Дэпутаты Мінскага гарсавета пагадзіліся з кандыдатурай Прэзідэнта, прагаласаваўшы за Уладзіміра Васільевіча Ярмошына, які дагэтуль працаваў першым намеснікам старшыні гарвыканкама.

Аляксандр Міхайлавіч Герасіменка захаваў за сабой пасаду старшыні гарадскога Савета.

## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Правительство России по поручению президента предложило участникам "незаконных вооруженных формирований на территории Чеченской Республики" с 8 часов 10 января на 48 часов прекратить огонь, оставить позиции, боевую технику, сложить оружие, возвратить лиц, захваченных во время вооруженных столкновений.***

С утра 10 января российские войска прекратили обстрелы опорных пунктов формирований Дудаева как в чеченской столице — Грозном, так и в других регионах республики.

❑

***Родители солдат, погибших в армии в мирное время, а также направленных сейчас для участия в военных действиях в Чечне, продолжили вчера многодневную акцию протеста в Москве против "кровопролития в республике".***

Они пикетировали Генеральный штаб вооруженных сил России и требовали немедленно вывести российские войска из Чечни.

❑

***Беларусь передала в аренду на 25 лет два находящиеся на ее территории объекта вооруженным силам России, сообщил в понедельник на пресс-конференции в Минске белорусский премьер Михаил Чигирь.***

В аренду передаются возводящаяся в Барановичах станция по предупреждению ракетного нападения и центр по управлению российским подводным атомным флотом в Вилейке.

❑

***Число замерзших на московских улицах до смерти с начала декабря, когда наступили морозы, достигло 50 человек.***

Как сообщили в Московском департаменте здравоохранения, пятидесятый погибший, как и все предыдущие жертвы, находился в состоянии алкогольного опьянения.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 10 января упал на 38 пунктов по сравнению с торгами в пятницу и составил 3705 рублей.***

❑

### Завтра в Минск прибывает Джордж Сорос

***В программе визита известного финансиста и филантропа — встреча с Президентом Республики Беларусь Александром Лукашенко и министром иностранных дел Владимиром Сенько.***

Только в прошлом году Сорос потратил на благотворительные программы его фондов, которые существуют в двадцати трех странах мира, 183 миллиона долларов. За время существования Белорусского фонда Сороса, основанного в октябре 1992 года, американским миллиардером выделено для поддержки науки, культуры и образования в нашей республике 3,5 миллиона долларов.

**Вероника БЕГУН.**

### Милицейская академия — 2?

***Постановлением Кабинета Министров Беларуси Могилевскому факультету Академии милиции МВД возвращен статус самостоятельного учебного заведения.***

Могилевский факультет существует уже более 40 лет, причем раньше он готовил кадры лишь для транспортной милиции. С приобретением нового статуса он будет выпускать работников уголовного розыска и отдела по борьбе с экономической преступностью.

Курсантами этого учебного заведения смогут стать не только демобилизованные из армии и органов МВД граждане, но и выпускники средних школ.

**Александр АЛЕКСАНДРОВИЧ.**

### Восстанию посвящается

***Сегодня на Минском главпочтамте состоится специальное гашение марок, посвященных 200-летию восстания 1794 года.***

На четырех почтовых миниатюрах портреты главных героев этого события: Андрея Тадеуша Костюшко, Михала Клеофаса Огинского, Якуба Ясинского и Томаша Волжевского. Номиналы марок равны соответственно 1000, 1000, 600 и 600 рублям. Автором этих миниатюр является художник Николай Рыжий.

**Юрий ДОМНИЧ.**

### Опять граница дружбы?

***"Теперь мы имеем границу, которая будет служить людям".***

Таков, по словам заместителя министра иностранных дел Беларуси Станислава Огурцова, итог напряженных переговоров по уточнению границы между Беларусью и Литвой.

Всего рассматривалось 86 спорных участков. Как известно, самым трудным был вопрос о станции Гадутишки. Наконец ее поделили: сама станция отошла нашей стороне, здание вокзала и вспомогательный путь — литовцам, а эксплуатироваться станция будет совместно.

Достигнута окончательная договоренность по санаторию "Беларусь" в Друскининкае и станции слежения за обстановкой в озере Дрисвяты близ Игналинской АЭС, которая находится на нашем берегу. Фактически стороны обменялись этими объектами на том условии, что территория, на которой они находятся, отдается в аренду.

**Олег ГРУЗДИЛОВИЧ.**

### Телеграмма Олега Трусова Ивану Рыбкину

Телеграмма, подписанная Олегом Трусовым от имени исполкома Белорусской социал-демократической Громады, направлена в Государственную думу России ее председателю Ивану Рыбкину. В ней выражен протест официальной Москве, которая "имеет наглость призывать к воссоединению Беларуси и России".

"Мы хотим равноправного сотрудничества со всеми государствами, включая и демократическую и цивилизованную Россию. Мы искренне желаем нашей великой восточной соседке как можно скорее стать такой страной", — говорится в телеграмме белорусских социал-демократов.

**Петр КУНЦЕВИЧ.**

### Купе нам будет... снится?

***Как сообщили в управлении Белорусской железной дороги, с 11 января в полтора раза повышаются цены на проезд в пассажирских поездах межгосударственного сообщения.***

Это вызвано изменением курса белорусского рубля к российскому, который установлен Национальным банком республики в соотношении 1:3. Таким образом, билет в плацкартном вагоне самого "дешевого" поезда №4 Минск—Москва будет стоить вместо 42 — 63 тысячи, в купейном — вместо 67 — почти 100 тысяч белорусских рублей.

Стоимость проезда на маршрутах пригородного сообщения и билетов на местные поезда в пределах республики остается на прежнем уровне.

**Светлана ЮЗИК.**

### Спорт-экспресс

***В очередном туре розыгрыша кубка МХЛ минский "Тивали" принимал дома московский "Спартак" и проиграл со счетом 3:4.***

❑

***В Раубичах проходит чемпионат Беларуси по биатлону.***

В первый день соревнований мужчины состязались в гонке на 20 км, а женщины преодолевали 15-километровую дистанцию. В этих видах победу одержали недавний юниор Алексей Айдаров и не нуждающаяся в рекомендациях Светлана Парамыгина.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.**

агенцтва Грачуова

**Курсы обмена наличных валют в коммерческих банках на 10 января 1995.**
тел./факс (0172) 325-105

| НАИМЕНОВАНИЕ БАНКА | Доллар США | | Немецкая марка | | Российск. рубль | | Телефоны для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | |
| 1. КОМПЛЕКС-БАНК | 10835* | 11200 | 6895* | 7186 | 2.48 | 2.82 | 067 |
| 2. БЕЛВНЕШЭКОНОМ-БАНК | 10950* | 11250 | 7035* | 7230 | 2.40 | 2.80 | 267-022 |
| 3. БЕЛАРУСБАНК | 11550<br>11650** | 12120* | 7218<br>7281** | | 2.71* | 3.03* | 239-250 |
| 4. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл.операц.управ) | 11200* | 11500* | 7000* | 7400* | 2.60 | 3.00 | 067 |
| 5. НАРОДНЫЙ БАНК | 11050* | 11450 | 7050* | 7350 | 2.56 | 2.82 | 238-610 |
| 6. ПРОФБАНК | 11250* | 11700 | 6950* | 7250 | 2.70 | 3.00 | 239-344 |
| 7. СБЕРБАНК | 11100 | 11500 | 7000 | 7300 | 2.65 | 2.80 | 067 |
| 8. ОЛИМП | 11200<br>11256** | 11600<br>11658** | 7088<br>7123** | 7388<br>7425** | 2.73<br>2.84** | 3.00<br>2.95** | 508-556 |
| 9. ДУКАТ | 11250* | 11700 | 7200* | 7500 | 2.40 | 3.00 | 201-063 |
| 10. СП ГУБИСС РЕСУРС | 10800 | 11400 | 6600 | 7260 | 2.40 | 2.90 | 769-177 |
| 11. БЕЛБАЛТИЯ | 11150 | 11750 | 7000 | 7350 | 2.70 | 2.90 | 207-625 |
| 12. "СОЛИД" | 10900 | 11350 | 6950 | 7350 | 2.60 | 2.75 | 202-993<br>067 |
| 13. БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция | 11200 | 11500 | 7100 | 7300 | 2.65 | 2.90 | 634-341 |
| 14. МИЛАВИЦА филиал АКБ ДУКАТ | 11250* | 11600 | 6950 | 7450 | 2.30 | 2.80 | 372-825 |
| 15. ф. п. "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ" | 11100 | 11600 | 6700 | 7200 | | | 293-187 |
| 16. ВЕЛЕС филиал АКБ ДУКАТ | 11250 | 11400 | 7150 | 7300 | 2.60 | 2.95 | |
| 17. БЕЛИНВЕСТБАНК | 11000 | 11400 | 6900 | 7300 | 2.30 | 3.00 | |
| 18. филиал № 1 банка ОЛИМП | 11100* | 11400 | 6800* | 7200 | | | 291-646 |
| 19. ПОИСК | 11400 | 11700 | 6950 | 7270 | 2.40 | 2.70 | |
| 20. ЕВРОПЕЙСКИЙ | 11100<br>11600** | 11600<br>11750** | 7150<br>7450** | 7500<br>7580** | 2.70<br>2.80** | 2.85<br>3.00** | |
| 21. МАГНАТБАНК ф-л 001 | 10950* | 11350* | 6800* | 7050* | 2.65 | 2.90* | |
| 22. МИНСКИЙ ТРАНЗИТНЫЙ БАНК | 11000<br>10525** | 11450<br>12000** | 6700<br>7350** | 7300<br>7800** | 2.45 | 2.80 | |

*-Возможна операция за наличный и безналичный расчет
**-Операция проводится только по безналичному расчету

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

## Самым цяжкім зноў аказаўся 6-ы артыкул

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Ранішняе пасяджэнне Вярхоўнага Савета пасля "Рознага" пачалося незвычайна: з паведамлення Мечыслава Грыба, які напярэдадні атрымаў дакументальнае сведчанне аб тым, што кіраўніцтва ААН зменшыла нарэшце гадавы ўзнос Беларусі ў гэтую арганізацыю, што дапаможа нам зэканоміць вельмі патрэбных некалькі мільёнаў долараў. Калі дадаць да гэтага нядаўняе пашырэнне квоты на экспарт у Еўропу нашага тэкстылю (такое рашэнне прыняла Еўрапейская арганізацыя па тарыфах і гандлю), то відавочна, што намаганні парламента, яго кіраўніцтва, Міністэрства замежных спраў, нашых дыпламатаў па стварэнню Беларусі лепшых умоў для міжнароднага супрацоўніцтва нарэшце далі канкрэтны вынік. Нагадаю, як у сакавіку мінулага года дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі на чале з Мечыславам Грыбам ўпершыню наведала Еўрапарламент. Тады былі праведзены напружаныя перамовы па балючых для нас пытаннях. Сярод іх — і пра пашырэнне квоты на гандаль тэкстылем. Дэлегацыю папярэдзілі, што лягчэй вырашыць многія палітычныя праблемы, чым дабіцца нейкай эканамічнай ільготы, тым больш для краіны, скажам так, "зялёнай" на міжнароднай арэне. Але беларусам абяцалі дапамогу і слова свае стрымалі.

Каб і мы гэтак жа моцна трымалі свае словы і абяцанні! Выказваю гэтае пажаданне, маючы на ўвазе ўчарашняе абмеркаванне законапраекта "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Прадбачу, што сёння, пасля таго, як Беларусь праславілася на ўвесь свет чарговым скандалам у сувязі з наступам дзяржавы на свабоду друку, цікавасць міжнароднага супольніцтва да таго, якім будзе наша інфармацыйнае заканадаўства, узрасце ў шмат разоў. У прынцыпе гэта наша апошняя магчымасць рэабілітаваць сябе ў вачах тых дзеячаў важных міжнародных арганізацый (у якія мы, дарэчы, хочам уступіць), якія ўпэўнены: са свабодаю прэсы ў нас не ўсё ў парадку. Такім чынам, ці здасць Беларусь гэты экзамен?

Цяжка адказаць адназначна. Закон, які журналісты напярэдадні ацэньвалі ў прынцыпе станоўча, яшчэ не прыняты, хаця амаль што 50 яго артыкулаў прайшлі выпрабаванне галасаваннем. Засталося разабрацца толькі з 6-м артыкулам, дзе ідзе гаворка аб мове дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі. Пакуль што вядома: апошняя частка гэтага артыкула ("сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх з'яўляюцца дзяржаўныя органы, ажыццяўляюць сваю дзейнасць на дзяржаўнай мове") з праекта не выключана, хаця гэта прапанавалася. Але і за ўвесь артыкул нават у змененай рэдакцыі дэпутаты не прагаласавалі. Пакуль што пытанне застаецца адкрытым. Дэпутаты абяцалі яшчэ папрацаваць над праслаўтым 6-м артыкулам і хутчэй прыняць закон, якога даўно чакаюць як у Беларусі, так і за яе межамі, дзе пільна сочаць за нашымі рэформамі.

Дарэчы, была на шляху да прыняцця закона яшчэ адна дыскусія. Па прапанове дэпутата Леаніда Зверава абмяркоўваўся варыянт 8-га артыкула, паводле якога дзяржаўныя органы не мелі права быць заснавальнікамі сродкаў масавай інфармацыі. "Дапаможыце мне знайсці іншы цывілізаваны сродак спыніць дзяржаўную манаполію ў друку!", — рытарычна ўсклікаў дэпутат. Яго падтрымалі апазіцыя Беларускага народнага фронту і ўсё дэмакратычнае крыло парламента, але пры галасаванні папраўка не прайшла. "У нас дзяржаўных газет розных узроўняў амаль што 400. Што мы будзем рабіць з імі, калі яны апынуцца за межамі закона?" Відаць, гэтае меркаванне аказалася мацнейшым за той погляд, што дзяржаўная манаполія ў друку не сумяшчальная з сапраўднай дэмакратыяй.

... Цяжка ўздыхнулі ў прэс-цэнтры журналісты беларускіх дзяржаўных выданняў. Большасць з іх мараць аб свабодзе, але раптоўнага цуду не адбылося. І гэта натуральна. Без асабістых намаганняў, без рызыкі, без цяжкай барацьбы ніхто свабоды не атрымлівае. Нават калі вельмі хочацца.

Далей парламентарыі напружана працавалі над законапраектам "Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь", а пасля перапынку пачалося абмеркаванне законапраекта "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь".

АФІЦЫЙНА

## Барыс Ельцын жадае Беларусі працвітання

***Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў адміністрацыі Прэзідэнта рэспублікі, Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын адрасаваў Аляксандру Лукашэнку тэлеграму. У ёй кіраўнік расійскай дзяржавы паведамляе, што поўнасцю падзяляе выкладзеныя ў пасланні Аляксандра Лукашэнкі ад 18 лістапада 1994 года канцэптуальныя погляды на шляхі далейшага паглыблення эканамічнай інтэграцыі, умацавання расійска-беларускага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах жыцця.***

"Мы лічым прыярытэтнай задачай знешняй палітыкі Расіі вывесці нашы адносіны з Рэспублікай Беларусь на якасна новы ўзровень, забяспечыць яшчэ больш цесныя ўзаемадзеянні нашых краін у правядзенні эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў", — гаворыцца ў пасланні Барыса Ельцына. Расійскі прэзідэнт перакананы, што "ва ўзаемных інтарэсах трэба было б дакладна вызначыць план сумесных дзеянняў па далейшаму расшырэнню нашага супрацоўніцтва як на двухбаковай аснове, так і ў рамках СНД". Менавіта з гэтай мэтай, паводле слоў Барыса Ельцына, ім быў накіраваны ў Мінск намеснік прэм'ер-міністра Расіі Аляксей Бальшакоў, якому даручалася абмеркаваць гэтае кола пытанняў і падпісаць ад імя ўрада Расіі мемарандум аб расшырэнні і паглыбленні расійска-беларускага супрацоўніцтва, а таксама шэраг пагадненняў.

Барыс Ельцын выказаў надзею, што паездка ў Беларусь Аляксея Бальшакова паслужыць хутчэйшаму завяршэнню работы па падрыхтоўцы поўнамаштабнага палітычнага дагавора, які плануецца падпісаць у ходзе маючага адбыцца візіту расійскага прэзідэнта ў нашу рэспубліку.

Барыс Ельцын пажадаў асабіста Аляксандру Лукашэнку і ўсяму народу Беларусі шчасця, дабрабыту і працвітання.

ПРЫЕМНЫЯ ІМГНЕННІ

## "Народнай" проста наканавана быць на вышыні, бо гэта ж газета вышэйшага органа ўлады!

### Так зазначыў з усмешкай кіраўнік парламента Мечыслаў Грыб пры ўручэнні Ганаровых грамат Вярхоўнага Савета групе супрацоўнікаў рэдакцыі

Напаўжартоўны тон гэтай фразы зразумелы, бо на справе высокі афіцыйны ранг выдання зусім не забяспечвае сам па сабе ягоную папулярнасць. Хутчэй наадварот: такой газеце асабліва цяжка пазбегнуць казёншчыны, займець арыгінальнае аблічча і годны, без лакейскіх нотак, голас.

"Народнай газеце" гэта ўдалося. За чатыры гады сваёй гісторыі яна стала бясспрэчным лідэрам беларускай прэсы, апярэдзіўшы па тыражу ўсе астатнія выданні. Чытач жа, як вядома, галасуе падпіскай не за "шыльду", а за змест. Такім чынам, сотні тысяч грамадзян нашай краіны, мяркуючы па ўсім, лічаць менавіта "Народную газету" самай цікавай, інфарматыўнай, праўдзівай. І гэта прызнанне высокага прафесіяналізму дзесяткаў супрацоўнікаў рэдакцыі — як тых, чые імёны фігуруюць на газетнай паласе, так і тых, хто робіць сваю справу "па-за кадрам".

З боку ж Вярхоўнага Савета знакам такога прызнання стала тое, што група супрацоўнікаў газеты з нагоды нядаўняга выхаду яе тысячнага нумара адзначана вышэйшай на сёння беларускай узнагародай. Каб асабіста ўручыць Ганаровыя граматы, і завітаў днямі ў рэдакцыю кіраўнік парламента. Акурат калядныя падарункі атрымаліся!

**Кастусь АЛЕКСАНДРОВІЧ, Сяргей ГРЫЦ (фота).**

❑ *Здымак на памяць: Мечыслаў ГРЫБ (трэці злева) і ўзнагароджаныя Ганаровымі граматамі супрацоўнікі (злева направа): Павел ЯКУБОВІЧ, Таццяна ВАНЗОНАК, Алена МАЛОЧКА, Сяргей БУТКЕВІЧ, Андрэй ЮДЧЫЦ, Павел СТАСЕВІЧ, Уладзімір САМОЙЛАЎ.*

Граждане, послушайте меня

## Я выступаю за мир и дружбу со всеми народами, но жить хочу в суверенной Беларуси

Уважаемый главный редактор! Почти со дня основания газеты я являюсь ее подписчиком. Демократичность — вот главный ее козырь. Но для меня ваша газета служит еще и букварем, по которому я пытаюсь в свои уже зрелые годы изучить белорусский язык.

Поводом же для написания этого письма послужила короткая заметка в "Народной газете" за 3 января, опубликованная на первой странице под заголовком "Без меня меня женили?". В ней говорится, что в Госдуме России нашлись люди, которые предлагают провести 17 марта 1995 года совместное заседание белорусского и российского парламентов по поводу объединения России и Беларуси в одно государство.

Вот уж действительно "без меня меня женили"! Точнее, чем автор этой заметки Андрей Середа, выразиться просто невозможно.

Сам я по национальности украинец, но с 1976 года проживаю в Беларуси, здесь живут сыновья и внуки. Так что я являюсь полноправным гражданином Беларуси и в связи с этим хочу заявить по этой заметке следующее.

1. Никто, кроме меня, не имеет права решать вопрос объединения моей страны с другим государством, даже если это будет Украина, сыном которой я являюсь по происхождению.

2. Вопрос объединения должен решаться исключительно методом опроса каждого гражданина Республики Беларусь. Недопустимо, чтобы эту проблему решал за нас, граждан Беларуси, нынешний Верховный Совет Республики Беларусь, у которого на исходе его полномочия.

3. Как и любой здравомыслящий гражданин Беларуси, я решительно выступаю против объединения нашей страны в одно государство как с Украиной, так и тем более с Россией. Война в Чечне окончательно, надеюсь, убедила людей доброй воли в том, что кое-кто из кремлевских поводырей неизлечимо болен имперской болезнью, им наплевать на стремление народов к свободе и независимости.

4. Как и большинство белорусского народа, я выступаю за дружбу и мир со всеми народами, особенно с народами соседних государств, но жить мы должны только отдельно. Каждый гражданин Беларуси должен посвятить себя возрождению Беларуси как самостоятельного, независимого и суверенного государства.

Еще хочу обратиться к той части русскоязычного населения, которой (пока еще, к великому сожалению) чужда благородная идея возрождения белорусского народа, его государственности.

Мы, русскоязычные, проживающие в Республике Беларусь, должны понять: пока белорусы как нация живут неуютно на своей исконной земле, до тех пор и нам на этой земле будет плохо.

**ПЕРЕКРЕСТОВ Виктор Федорович, пенсионер.**

## Заява Дзяржаўнага дэпартамента ЗША

30 снежня выконваючая абавязкі прэс-сакратара Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Крысцін Шэлі зрабіла наступную заяву.

Шэраг беларускіх газет зрабілі спробу апублікаваць даклад члена парламента рэспублікі, у якім утрымліваліся абвінавачванні ў карупцыі ў адрас высокапастаўленых асоб з адміністрацыі Прэзідэнта Лукашэнкі. Газеты выйшлі з белымі плямамі на тых месцах, дзе павінен быў быць надрукаваны даклад.

Мы з заклапочанасцю адносімся да любога выпадку цэнзуры ў адносінах да прэсы. Свабодныя, пазбаўленыя акоў цэнзуры сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца асноватворным элементам дэмакратыі і правадніком мірнага грамадскага развіцця. Праз прэсу выбаршчыкі знаёмяцца з бягучымі падзеямі і выказваюць сваю думку пра іх.

Мы заклікаем беларускае кіраўніцтва паважаць права прэсы на свабоду слова, якое гарантуецца міжнароднымі пагадненнямі, такімі, як Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека і Хельсінкскія пагадненні, а таксама Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Мы звяртаемся да Беларусі з заклікам працягваць і ўзмацняць тыя крокі, якія былі зроблены на шляху дэмакратызацыі і эканамічнай рэформы. Свабодна функцыяніруючая прэса ўяўляе сабой важны састаўны элемент гэтага працэсу.

## У суправаджэнні высокай моды

***Як знайсці прадукцыі беларускіх швейнікаў дарогу на заходні рынак, як урэшце застацца ёй канкурэнтаздольнай на ўласным рынку, нягледзячы на масавае пранікненне замежных фірм?***

На гэтае пытанне дапаможа адказаць Беларускі цэнтр моды, які гэтымі днямі праводзіць сезонны метадычны семінар "Напрамкі моды Восень-Зіма 1995—96 гг.". Спецыялісты лёгкай прамысловасці рэспублікі змогуць пазнаёміцца і з творчымі знаходкамі стылістаў дамоў высокай моды Францыі "Ніна Рычы" і "Тэд Лапідус", прэстыжных фірм Германіі ("Ллойд" — абутак), Швейцарыі ("Дзюпон" — аксесуары). Вечарам 13 студзеня на подыуме Беларускага цэнтра моды дзякуючы мінскаму салону высокай моды "Т.Е. Элегантнасць і прэстыж", які з'яўляецца прадстаўніком названых заканадаўцаў у галіне высокатэхналагічнай вытворчасці, апошнія калекцыі ў пастаноўцы агенцтва мадэляў "Тамара" змогуць таксама ўбачыць і ўсе аматары моды, купіўшы білеты на гэты паказ у Беларускім цэнтры моды.

**Белінфарм.**

